У нумары: Аляксандр Завадскі аб Веры Харужай | Леніна: 12.X.1943 | Навіны савецкай навукі


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (398) | ГОД VIII | 13 КАСТРЫЧНІКА | ЦАНА 60 ГР


# П'ЕСА — ІДЭАЛОГІЯ

Адной з форм уздзеяння Беларускага грамадска - культурнага таварыства на людзей з'яўляюцца аматарскія тэатральныя гурткі (часцей не зусім сцісла званыя драматычнымі). Уздзеянне Таварыства, бо вялікая частка яго дзейнасці зводзіцца якраз да гэтай галіны. Таварыства арганізуе гурткі, праводзіць курсы для іх кіраўнікоў, Таварыства забяспечвае гурткі рэпертуарам. Не адважылася сказаць: кіруе рэпертуарнай палітыкай тэатральных гурткоў, бо маецца тут сур'ёзная засцярога, ці наогул існуе хоць нейкая прадуманая мэтанакіраваная рэпертуарная палітыка.

Аматарскі тэатральны рух сярод беларусаў у Польшчы развіваецца інтэнсіўна. Выглядае на тое, што такая форма культурна - грамадскай працы адпавядае нашай глебе. Памятаць толькі трэба, што ад насення, якім сеем, залежыць плён. Нашым насеннем у даным выпадку з'яўляецца рэпертуар тэатральных гурткоў. Аб ім і хочам пагаварыць у нашай перадпленумскай дыскусіі, звярнуць моцную ўвагу членаў Пленума на рэпертуар як ідэалагічны фактар, як фактар выхавання чалавека новага складу — чалавека высокай ідэйнасці і гуманнасці.

Каб нашы разважанні не былі аднак галаслоўнымі, прадставім некалькі дадзеных, якія раскрываюць аб'ём уздзеяння Таварыства праз тэатральныя гурткі.

У асенне - зімовым сезоне ў нас налічваецца некалькі добрых дзесяткаў (6—7) аматарскіх тэатральных гурткоў. Закладаем наступны мінімум: кожны з гурткоў паставіць адну п'есу. Выступіць з ёй 3 разы. Разам маем тады ў адным сезоне 180—210 выступленняў. На кожным выступленні будзе 100 асоб. За сезон 18—21 тыс. гледачоў убачаць выступленні гурткоў. Хоць гэтыя дадзеныя ў рамках мінімум, аднак і яны вялікія, настолькі вялікія, каб зразумець, што рэпертуар як фактар ідэалагічнага ўздзеяння на гэтыя тысячы — справа надта важная.

Адступаючы ад мінімума, скажам, што адзін і той жа гурток у сезоне патрапіць паставіць 2—3—4 п'есы. Выступіць 4—5 разоў. Прыцягнуць на адно выступленне (залежна ад залы) 200—300 гледачоў. Вобраз тады радыкальна зменіцца, аб'ём уздзеяння пашырыцца на падвойную коль- [illegible]ць людзей.

Ды і гэта яшчэ, бадай, не ўсё. Вось канкрэтныя прыклады, над якімі варта застанавіцца.

«Ты быў на камедыйцы?» — «Не». — «Ох, але ж і папілі артысты на сцэне, адзін аж языком злізваў!» Той другі глытае сліну: «От, добра ім!»

Другі прыклад. Пасля выступлення — гасціна з гарэлкай, зразумела. «Ну, Кацярынка, вып'ем». Кацярынка скромна апускае вочы: «Не п'ю». «Не п'еш, а на сцэне як кілішак за кілішкам ліла ў рот. Ну, вып'ем!» Выпіваюць.

Прыклад трэці. Салдат у п'есе зводзіць чужую жонку, ашуквае мужыка, крадзе чужое. У салдата на галаве пілотка з чырвонай пяціканцовай зорачкай. «Хітры», — смяюцца людзі ў зале. «Ого, гэта салдат!»

П'еса ўздзейнічае, п'еса вучыць. Не толькі тых, якія яе бачылі, але праз іх і іншых. Не раз стаўляла

(Працяг на стар. 4)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# У БЕЛАСТОКУ
## на Грунвальдскай

1 кастрычніка распачаўся чарговы студэнцкі год навукі. Распачаўся ён і на вуліцы Грунвальдскай у Беластоку. Тут памяшчаецца Вячэрняя Інжынерская Школа — ВСІ. Гэта другая пасля Медыцынскай Акадэміі, на жаль, менш вядомая нашым чытачам, вышэйшая навучальная ўстанова ў Беластоку.

Сёння маю прыемнасць гутарыць з рэктарам гэтай школы магістрам інжынерам Мар'янам Панятоўскім.

— Студэнцкі год навукі ў ВСІ распачалі мы ўжо 15-ты раз. За той час выйшла ад нас 320 інжынераў. Амаль усе яны асталіся на Беласточчыне і працуюць у розных прамысловых і будаўнічых прадпрыемствах.

**— Хто вучыцца ў вашай школе?**

— ВСІ адкрыта толькі і выключна для працуючых. 1-га кастрычніка г.г. распачало навуку ў нашай школе 543 студэнты механічнага, будаўлянага і электрычнага факультэтаў. Апрача таго існуе ў нас пасля — інжынерская магістэрская студыя. Мае яна зараз 26 слухачоў.

**— Калі адбываюцца ў вас занятк і?**

— 5 раз у тыдзень па 3 — 4 гадзіны штодзень пасля абеду.

**— Пры такім распланаванні заняткаў практычна немагчыма, каб вучыліся ў вашай школе ўсе ахвотныя павышаць свае веды, але пражываючыя па-за горадам Беластокам. Не ўяўляю сабе, каб хто пасля работы змог, для прыкладу, з Гайнаўкі прыехаць у Беласток на занятк і, а за тым вярнуцца ранкам наступнага дня да працы.**

— На жаль, прыдзецца згадзіцца з вамі. Як дагэтуль у нашай школе вучыліся і вучацца толькі і выключна беластачане. Каб стварыць магчымасць вучыцца ў нашай школе жыхарам другіх гарадоў і мясцовасцей Беластоцкага ваяводства, неабходна побач з існуючым метадам навукі ўвясці завочнае абучэнне. Студэнты-завочнікі прыязджалі б тады што нейкі час на практычныя занятк і і на кансультацыі, а тэарэтычны матэрыял засвойвалі б дома. Магчыма, што ў бліжэйшыя гады прыступім да ажыццяўлення гэтага метаду навукі.

**— ВСІ — адзіная на Беласточчыне тэхнічная вышэйшая навучальная ўстанова, якая згуртоўвае высокакваліфікаваных спецыялістаў...**

— Несумненна так. Маем 26 пастаянных навуковых работнікаў. Звыш палазіны сярод іх або ўжо мае званне доктара навук, або зараз рыхтуе дактарскую працу. Апрача таго цесна супрацоўнічаем з прафесарамі Варшаўскай палітэхнікі.

**— Ці стараецеся вы як вышэйшая навучальная ўстанова звязваць сваю навукова - даследчую дзейнасць з канкрэтнымі патрэбамі Беласточчыны?**

(Працяг на стар. 5)

> **МНЕ ЛЮДЗІ ДА ТОЙ ПАРЫ ПАДАБАЮЦЦА, ПАКУЛЬ ХОЧУЦЬ ШТОСЬЦІ, КУДЫ - НЕБУДЗЬ ІДУЦЬ, ШУКАЮЦЬ НЕШТА... АЛЕ КАЛІ ЯНЫ ДАЙШЛІ ДА МЭТЫ СВАЕЙ І СПЫНІЛІСЯ, ДЫК ЯНЫ ЎЖО НЕЦІКАВЫЯ.**
>
> **Максім Горкі**

# ДВАЦЦАЦЬ ГОД



Ім па дваццаць год. Яны — равеснікі арміі, у якой служаць. Слаўны шлях І і ІІ Арміі народнага Войска Польскага для іх — гісторыя ў даслоўным значэнні. Гавораць аб сабе: з'яўляемся прадаўжальнікамі прыгожых франтавых традыцый. І дадаюць: нічым не адзначым лепей юбілею нашай арміі, як высокай баявой гатоўнасцю.

На здымку: гарматны разлік капрала В. Салядры, які змагаецца за званне «Гарматнага разліку Сацыялістычнай Службы».

Артыкул «Леніна: 12.X.1943» — стр. 3

# КОСМАС—БЕЗ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ

Не прайшло яшчэ і трох месяцаў, як у Маскве быў падпісаны дагавор аб забароне ядзерных выпрабаванняў у Космасе, атмасферы і пад вадой, як свет атрымаў новую прыемную вестку. Міністры замежных спраў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі, якія вялі размовы ў мінулым тыдні па-за залаю пасяджэнняў ААН, дасягнулі згоды ў справе забароны высылкі на зямную арбіту ракет з ядзернай зброяй. Калі гэтае паразуменне будзе зацверджана ўрадамі гэтых трох дзяржаў, можна будзе гаварыць аб рэалізацыі другога кроку на шляху да раззбраення.

Вядома, гэта яшчэ не такі вялікі крок, каб ён мог пакончыць з бояззю за мір на зямлі. Аднак не можна сказаць, што ён не мае практычнага значэння, як гэта хочуць прадставіць прыхільнікі халоднай вайны ў ЗША, Францыі ці ФРГ. Яны цвердзяць, што гэтае паразуменне не мае непасрэднай сувязі з аслабленнем міжнароднага напружання, таму што цяпер вялікія дзяржавы і так не маюць адпаведнай колькасці ракет, каб вывесці на арбіту атамныя і вадародныя бомбы.

Не ўглыбляючыся ў сутнасць спору (маюць вялікія дзяржавы ўжо такую касмічную зброю ці не), трэба прызнаць, што такое паразуменне выключае космас з зоны гонкі ўзбраення і магчымасці ваеннага канфлікту. Бо разважныя палітыкі і вучоныя добра ведаюць, што касмічная ядзерная зброя была б сродкам найстрашнейшага знішчэння, які выключае ўсялякую самаабарону.

І, нарэшце, паразуменне ў справе ізалявання космасу ад ядзернай зброі мае і тую велізарную вартасць, што звальняе краіны і народы ад тых велізарных выдаткаў, якія пацягнула б за сабой касмічная ядзерная зброя.

З усіх гэтых пунктаў гледжання ньюйоркскае паразуменне трэба лічыць сур'ёзным крокам на шляху да аслаблення напружання і як доказ добрай волі палітыкаў ЗША і Вялікабрытаніі, якія згадзіліся на савецкую прапанову.

Калі ўжо ўспамянулі аб добрай волі, варта сказаць некалькі слоў і аб атмасферы, у якой працякалі ньюйоркскія размовы. Палітычныя назіральнікі згодна сцвярджаюць, што размовы Усход — Захад характарызаваліся супольнымі пошукамі пунктаў згоды і абыходзілі тыя тэмы, у якіх яшчэ існуе вялікая розніца ў поглядах. Гэта добры вястун на будучае ў сувязі з планаванымі двухбаковымі размовамі і наступным этапам Жэнеўскай Канферэнцыі 18 дзяржаў.

Каб паўней ацаніць атмасферу, якая была ў мінулым тыдні ў Нью-Йорку, можна прывесці цытату з выказванняў англійскага міністра замежных спраў лорда Гомэ: «Сцвярджэнне, што мы знаходзімся напярэдадні аслаблення напружання, — сказаў ён, — было б аптымістычным, калі б у аслабленні напружання разумець вырашэнне ўсіх спорных пытанняў. Аднак мы пачалі гэты працэс і... лічу, што ўсе спорныя пытанні павінны быць вырашаны шляхам перагавораў, а не прымяненнем сілы».

Цяпер, пасля дасягнення ўступнага паразумення ў справе дэатамізацыі космасу, размовы перанесліся з Нью-Йорка ў Вашынгтон. Савецкі міністр замежных спраў Грамыка спаткаўся з прэзідэнтам Кенедзі і дзяржаўным сакратаром Раскам. Існуюць падставы, каб сцвярджаць, што тэмай іх размовы былі такія справы з савецкіх прапаноў, як стварэнне кантрольных пунктаў па абодвух баках граніцы, раздзяляючай Усход і Захад, абмежаванне распаўсюджвання ядзернай зброі, змяншэнне ваенных бюджэтаў, знішчэнне пэўнай лічбы сродкаў пераносу атамных і вадародных бомб, а таксама заключэнне пакту аб ненападзенні паміж краінамі — членамі Варшаўскага дагавора і НАТО.

Дасягненне паразумення хоць бы ў якой-небудзь з гэтых спраў было б чарговым крокам на шляху да аслаблення напружання і ўмацавання міру. Таму да вашынгтонскіх размоў адносімся сур'ёзна і з надзеяй.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## АЛЯКСАНДР ЗАВАДСКІ АБ ВЕРЫ ХАРУЖАЙ

27 верасня г.г. у сувязі з 60 гадавінай нараджэння Веры Харужай «Трыбуна Люду» апублікавала ўспамін Старшыні Савета Дзяржавы Аляксандра Завадскага аб палымянай рэвалюцыянерцы. Загаловак публікацыі: «Постаць, якая не заціраецца ў памяці». З увагі на цікавасць тэмы змяшчаем поўны тэкст публікацыі.

# ПОСТАЦЬ, ЯКАЯ НЕ ЗАЦІРАЕЦЦА У ПАМЯЦІ

**З наймалодшых год удзельнічала ў рэвалюцыйнай барацьбе. Нарадзілася ў 1903 годзе. Маючы 17 год, дзейнічала ўжо ў радах Камсамола на Беларусі. Трохі пазней разгарнула дзейнасць у радах рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. У 1925 годзе была прыгаворана Брэсцкім судом да 6 год турэмнага зняволення. Праз тры гады пасля першага прыгавора зноў аказалася на лаве абвінавачаных у вядомым вялікім працэсе ў Беластоку. Новы прыгавор дадаў яшчэ 8 год турмы. У 1931 годзе ў Савецкім Саюзе былі надрукаваны яе лісты з турмы, якія ўвайшлі ў скарб цудоўных, найкаштаўнейшых, найбольш хвалюючых дакументаў такога тыпу.**

**У час нападу гітлераўцаў на СССР Вера Харужая была партыйным дзеячом. Разам з мужам арганізавала адзін з першых на Беларусі партызанскіх атрадаў, двойчы пераходзіла лінію фронта. Пры пераходзе лініі фронта другі раз, у 1942 г., была схоплена фашыстамі і загінула геройскай смерцю. Засталіся па Ёй пісаныя ў турмах лісты, засталіся незабыўныя ўспаміны тых, хто яе ведаў.**

**У размове з прадстаўнікамі рэдакцыі «Трыбуны Люду» і «Штандару Млодых» Старшыня Савета Дзяржавы тав. Аляксандр Завадскі расказвае:**

Гэта ўжо, як сёння здаецца, вельмі далёкія часы. Якраз у гэтым годзе ў верасні мінае 40 год, калі па загаду партыі я пакінуў працу ў капальні «Парыж» і быў уведзены ў склад Цэнтральнага Камітэта Саюза Камуністычнай Моладзі Польшчы, які знаходзіўся ў Варшаве. Якраз тады на адным з пасяджэнняў ЦК я спаткаў Веру. Мы, тэрэновыя дзеячы, з'язджаліся на пасяджэнні ЦК прыблізна штомесяц з розных канцоў краіны, з акругоў. Вера прыязджала з Заходняй Беларусі, дзе ўзначальвала Сакратарыят ЦК КСМ Заходняй Беларусі. Я прыязджаў тады па чарзе з Лодзінскага, Заглэмбска - Шлёнскага і Радомска - Келецкага акругоў. Прыблізна ад красавіка да ліпеня 1925 года (да майго арышту ў Вільне) разам з Верай працаваў у Сакратарыяце ЦК КСМ Заходняй Беларусі і мы як раней прыязджалі на Пленумы ЦК КСМ у Варшаву.

Што сказаць аб Веры? Напэўна, гэта была такая дзяўчына, постаць якой з гадамі не заціраецца ў памяці. Калі я і сёння гляджу на яе здымак (такі задумлівы, сур'ёзны) заўсёды з'яўляецца думка, што ў жыцці Вера была зусім іншай: жывой, вясёлай, з энтузіязмам, з хваляваннем прымаючай кожную нашу перамогу ў штодзённай працы. Не была прыгажуняй, але вельмі мілай, тарыскай, сардэчнай. І што тут укрываць — не адзін з нас быў у яе закаханы. Ці мог хто з нас тады падумаць, што гэтая дзяўчына — «цудоўная дзяўчына», як мы яе часта называлі, — будзе легендарнай гераіняй беларускага народа? Не, у час барацьбы аб такіх рэчах не думаецца.

9 ліпеня 1925 года я начаваў у Варшаўскай Гасцініцы ў Вільні. Калі я раніцай выходзіў на спатканне з Верай і трэцім членам Сакратарыяту «Юркам», пачуў у сябе за спіной: «Пане, пст...». Пару месяцаў пазней Вера была арыштавана і судзілася ў вядомым вялікім працэсе ў Беластоку. Называлася там і маё прозвішча. Відавочна, паліцыя тапталася ў нас па пятах нейкі час перад маім арыштам.

У 1939 годзе я трапіў разам са сваёй жонкай у Пінск. І вось аднойчы пад вечар на мосце над Пінай я заўважыў знаёмую зграбную постаць жанчыны: няўжо Вера? Была такой задумлівай, загледзеўшыся ў плынь ракі, што не заўважыла, калі мы з жонкай спыніліся ля яе, і толькі калі я сказаў: «Во як робіцца, нават старых сяброў не пазнаюць...» — уздрыганулася, яе твар раз'ясніўся і яна ажывілася. Як бывае ў такіх выпадках, радасці і пытанням не было канца.

Сустракаліся мы часта і з ёй і з яе мужам Сяргеем

(Працяг на стар 7)

## Хроніка

■ 1 кастрычніка Дзяржаўная Рада ПНР ратыфікавала маскоўскі дагавор аб спыненні ядзерных выпрабаванняў у атмасферы, касмічных прасторах і пад вадой.

■ 1 кастрычніка ў Лагос пракламавана ўтварэнне Федэратыўнай рэспублікі Нігерыі. Прэзідэнтам гэтай новай афрыканскай дзяржавы выбраны др Азіківе.

■ 7 кастрычніка Дзяржаўная Рада ПНР прызнала міністру нацыянальнай абароны — Мар'яну Спыхальскаму чын маршала Польшчы.

■ 29 верасня па запрашэнню намесніка прэм'ер-міністра ПНР Пятра Ярашэвіча прыехаў з візітам у Польшчу член Палітбюро Мангольскай народна - рэвалюцыйнай партыі, намеснік старшыні Рады Міністраў МНР Дэмчыг Маламжанц.

■ 3—4 кастрычніка ў Варшаве абрадаваў Пленум КЦ ЗМС. Пленум разглядаў справы, звязаныя з ідэйным выхаваннем моладзі.

■ 1 кастрычніка над Одрай, у Шчэцінскім ваяводстве, адбылося злучэнне польскага адрэзка вялікай нафтамагістралі — трубаправоду «Дружба» з адрэзкам, пабудаваным у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

■ 2 кастрычніка ў Гдыні адбылося першае ў гісторыі нашага суднабудаўніцтва вадаванне карабля з сухога дока, які нядаўна адданы ў карыстанне.

■ 3 кастрычніка на сесіі ГРН у Ялоўцы быў уручаны жыхару Дублян, былому партызану Янку Стэльмашуку «Ордэн Чырвонай Зоркі», прызнаны яму Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР за актыўны ўдзел у партызанскім руху.

■ 5 кастрычніка ў спулдзельні прадукцыйнай у Дарожках адбыўся ваяводскі з'езд жанчын — членаў спулдзельняў прадукцыйных. З'езд абмеркаваў справы планавання працы жанчын на асенне-зімовы перыяд.

■ 2 кастрычніка ў цырку «Арэна», які выступаў у Беластоку, у час прадстаўлення ўзбунтаваліся ільвы. Драпежнікі пачалі паміж сабой бойку. Сярод гледачоў узнікла паніка. Яны пакідалі месцы і ўцякалі з цырку. Толькі пры дапамозе струменняў вады ўдалося супакоіць раз'юшаных звяроў і загнаць іх у клеткі.

## Спорт

Столькі цікавых спартыўных мерапрыемстваў, як у мінулую нядзелю, не мелі мы даўно. Варшава на Стадыёне Войска Польскага, а мы пры тэлевізарах, былі сведкамі перамогі нашых лёгкаатлетаў над заходненямецкімі (113:99). Таксама ў Варшаве адбыліся цэнтральныя нацыянальныя бегі. Удзельнічала 214 спартсменаў. Познань была арэнай матча гімнастаў Польшчы і ГДР. Выйгралі нашы прадстаўнікі. На рынгу ў Лодзі адбыўся фінал турніра Дружалюбных армій. Турнір выйграла каманда Войска Польскага. А колькі хваляванняў прынеслі матчы чэмпіяната Еўропы па баскетболу ва Уроцлаве!

У матчах футбольнага экстракласа адзначым адну неспадзянку. У Шчэціне мясцовая Пагоня перамагла 2:1 саснавецкае Заглэмбе. Лідэрам стала варшаўская Легія, але трэба памятаць, што ўжо другі тур прапусціў Гурнік, які знаходзіўся ў Аўстрыі. На чале II лігі ўмацавалася Краковія.

У беластоцкай лізе вялікая неспадзянка. Мазур на сваім полі прайграў аж 0:3 беластоцкаму Влукняжу. Аднак, па-ранейшаму, лідзіруюць элчане. Першыя два ачкі страцілі рэзервы беластоцкай Гвардыі, прайграўшы ў Белавежы мясцоваму Зубру 1:4, гэтым самым стварыўшы гайнаўскай Пушчы выгаднае становішча — адзінага лідэра класа «А».

Гродзенскія баскетбалісты, у сябе, разграмілі беластоцкіх студэнтаў. Наш АЗС прайграў там высока два матчы (51:71 і 48:74).

Мінскія дынамаўцы перамаглі 1:0 кутаіскае Тарпеда і, па-ранейшаму, займаюць 5 месца.

Аут




Палкоўнік Рыбін, якому ўдалося сесці ў машыну Торпа, трымаў пад назіраннем вельмі небяспечнага ворага. Такую ж задачу вырашаў і Керымаў, які знаходзіўся з Упіцам. Абое разведчыкі былі на пэўны час ізаляваны ад сваіх таварышаў. Таму кіраўніцтва аперацыяй перайшло да маёра Перцава і старшага лейтэнанта Коржава. Яны знаходзіліся ў кузаве галоўнага грузавіка.

Як толькі аўтамабілі выехалі на шашу, Перцаў уключыў партатыўны перадатчык і выклікаў рацыю генерала Лыкава. Станцыя неадкладна адказала.

— Білеты купілі, багаж пагрузілі, ужо чатыры мінуты ў дарозе, — сказаў па-нямецку Перцаў. — Усё нармальна, з нецярплівасцю чакаем сустрэчы з сябрамі.

274

— Зразумела, — адказалі яму, і Перцаў пазнаў голас генерала Лыкава. — Вас чакаюць, сустрэнуць абавязкова.

Перцаў выключыў перадатчык, перадаў Коржаву словы генерала. Той зірнуў на неба.

— Рана яшчэ, — заўважыў Перцаў.

— Так, бадай, ранавата. З'явяцца гэтак мінут праз пяць — шэсць, га?

— Прыблізна.

— Хутчэй бы.

— Нервы? — усміхнуўся Перцаў.

— Мы не жалезныя.

Месяц падняўся вышэй. Пасвятлела. Коржаў, які разгублена глядзеў у хвост калоны, раптам прыкмеціў: чорны пункт у яе канцы пачаў абганяць грузавікі. Ён сказаў аб гэтым таварышу. Перцаў дастаў бінокль, паднёс да вачэй.

— Усюдыход.

— Чаго ён палез наперад?

— Мо', справа нейкая да начальства...

— Не, так не павінна быць. Сам чуў — Упіц загадаў ні ў якім выпадку не пакідаць ар'ергард... Глядзіце, як прэ. Спяшае, га?

— Чакайце. — Перцаў схапіў Коржава за руку. — Дык у Торпа ў машыне рацыя?!..

Здагадка разведчыкаў была праўдзівая. Здарылася яна з тых выпадковасцей, якія нярэдка рэзка змяняюць абставіны і з'яўляюцца прычынай сур'ёзных ускладненняў. У тую мінуту, калі Перцаў наладжваў перадатчык для размовы з генералам Лыкавым, уключыў сваю рацыю і Торп. Магчыма, пачуўшы радыёгутарку Перцава і Лыкава, ён бы не звярнуў увагі на яе, калі б не словы Перцава: «чатыры мінуты ў дарозе». Пачуўшы іх, Торп механічна зірнуў на гадзіннік. Стрэлкі паказвалі дзве гадзіны чатыры мінуты. Выйшла ж калона, як ён гэта добра помніў, роўна ў дзве гадзіны. І Торпу раптам стаў ясны сапраўдны сэнс слоў «багаж пагрузілі, з нецярплівасцю чакаем сустрэчы».

275

Не паварочваючы галавы, Торп вугалком вока аглядзеў спадарожніка. Дзве з палавінай гадзіны назад, сустрэўшы гэтага чалавека на дарозе, ён адзначыў, што маёр гаворыць з ледзь прыкметным акцэнтам — надта расцягвае галосныя. Торп ведаў, што на Рэйне, напрыклад, або ва Усходняй Прусіі гаворка немцаў адрозніваецца асаблівасцямі, яшчэ больш непрывычнымі для берлінскага вуха. І ён не надаў гэтаму значэння. Але цяпер Торп вытлумачыў акцэнт начальніка аўтакалоны зусім іншымі прычынамі.

Рускі разведчык побач з ім. у машыне? Але калі гэта так, калегі маёра павінны знаходзіцца ва ўсіх іншых аўтамабілях. Трыццаць — сорак чалавек, калі не больш! Адкуль жа яны ўзяліся?..

Здагадка была так неймаверна, што Торп у ёй усумніўся. Тым не менш ён вырашыў неадкладна далажыць Упіцу аб сваіх падазрэннях, а затым звязацца па радыё з абверам. Але як гэта зрабіць, калі ў машыне на самай справе варожы разведчык? Апрача таго, дагнаўшы машыну Упіца, Торп павінен будзе спыніць яе. Тады стане ўся калона.

(Працяг са стар. 3).

276

 

# Злёт польскай моладзі

22 ліпеня 1964 года адбудзецца ў Варшаве злёт польскай моладзі, які станецца кульмінацыйным момантам удзелу моладзі ў святкаванні 20-годдзя Народнай Польшчы. У злёце прымуць удзел тысячы перадавых прадстаўнікоў маладога пакалення з усіх асяроддзяў, як члены маладзёжных арганізацый, так і неарганізаваная моладзь.

Матэрыяльныя сродкі, неабходныя для правядзення злёту, падрыхтуе моладзь уласнымі сіламі — дадатковай працай маладзёжных брыгад і гурткоў ЗМВ, ЗМС, ЗСП, гарцэрскіх дружын.

Удзельнікі злёту ўжо за два тыдні перад ліпеньскім святам будуць знаходзіцца ў лагерах 20-годдзя, арганізаваных ЗМВ, ЗМС, Саюзам студэнтаў польскіх і згуртаваннем вайсковай моладзі. У праграму лагераў уключана азнаямленне моладзі з дасягненнямі і перспектывамі развіцця нашай краіны.

Агульнапольскі Камітэт Супрацоўніцтва маладзёжных арганізацый звяртаецца да моладзі ўсёй Польшчы з заклікам, у якім чытаем:

«Дваццаць год існавання і развіцця Народнай Польшчы з'яўляецца для кожнага з нас усебаковым балансам супольных дасягненняў у кожнай галіне жыцця. У гэты баланс уваходзіць і ахвярная праца маладога пакалення на карысць нашай краіны.

Заклікаем вас падтрымаць злёт грамадскай працай моладзі, каб нашай дадатковай грамадскай працай памножыць багацці, патрэбныя для развіцця краіны, а таксама каб уласнымі сіламі здабыць матэрыяльныя сродкі на правядзенне злёту. Няхай нідзе не будзе недахопу ў канкрэтнай ініцыятыве і працы нашых рук і розуму.

Сярод перадавых разам выберам ганаровую дэлегацыю моладзі на злёт».

(РАР)

## Хто хоча навучыцца іграць

Як у мінулыя гады, так і сёлета ў кастрычніку гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку пачынае курс ігры на музычных інструментах. Карысныя гэта курсы, таму і карыстаюцца належнай папулярнасцю сярод жыхароў горада і ў асаблівасці членаў нашага таварыства.

Дагэтуль музычныя курсы пры гарадскім аддзеле закончыла звыш 60 асоб. Некаторыя з іх, пераважна моладзь, далей працягваюць вучобу ў музычнай школе.

Навука на курсе будзе адбывацца два разы ў тыдзень па 2 гадзіны. Зразумела, што на музычны курс у першую чаргу будуць прымацца члены БГКТ.

Аб падрабязнасцях, звязаных з курсам, можна даведацца ў прэўленні аддзела пры вул. Варшаўскай 11.

(вб)

На здымку: лекцыя ігры на акардэоне.

Фота **В. Рудчык**



# П'ЕСА — ІДЭАЛОГІЯ

**(Працяг са стар. 1)**

сабе пытанне: чаму вучаць п'есы стаўленыя нашымі тэатральнымі гурткамі? Насоўваецца адзін бясспрэчны вывад: большасць нашых п'ес вучыць добра піць, паўлітра выносіць як альфу і амегу ўсяму і ўсюды, крычаць да сабраных, што «без паўлітра не разбярэш»!» Праслаўляюць глупоту, неахайнасць, брыдкія словы, бойку.

Нясмачныя нашы п'есы. Нежыццёвыя ў нашых умовах. «Міхалка», «Боты», «Пярэстая красуля», «Дзесяць гектараў», «Мікітаў лапаць», «Прымакі» — самыя папулярныя, самыя хадлівыя, а іх выкінуць бы трэба. Каб не псулі, не загаджвалі таго добрага, што ў нас ёсць ад натуры. Прэч з адным заплясневеўшым матывам — сваты, гарэлка, пасаг, ды яшчэ шляхцюх, ды яшчэ служанка. Даволі ўгаварваць вясковых людзей, што толькі пусты смех і глупствы — іх культурны ўдзел.

Прадстаячы Пленум павінен зрабіць паварот у гэтым аспекце. З поўнай адказнасцю аднесціся трэба да гурткоў і іх ролі на вёсцы. Трэба сур'ёзна задумацца над рэпертуарам, такім, які б хоць у пэўнай меры спаўняў заданне выхавання чалавека. А заданне гэтае цяпер для нас яснае і выразнае. Партыя паказала напрамак.

Становішча Таварыства з добрым рэпертуарам не ружова прадстаўляецца. Гэта факт. Адкуль узяць добрыя п'есы? Гэтае пытанне ўзнікала ўжо не раз. Звярталіся з просьбай да членаў Літаратурнага аб'яднання: пішыце для гурткоў. Зусім справядліва, хто ж іншы? Гэта ж, здавалася б, база. У сапраўднасці неяк інакш. Члены Літаб'яднання лічаць за лепшае мокнуць ва ўласным соусе, праводзіць спрэчкі і семінары фармальнага характару, сядзець у вялікіх гарадах і з настальгіяй пісаць аб беластоцкай бярозцы, вузкай палосцы, аб бабульцы — маме за парогам вясковай хаты. Усё гэта пахне сельска - анельскай ласкай з-прад 20-ці год. Няўжо каму, седзячы ў горадзе, здавалася б, што вёска не змяняецца і адзіная яе дэкарацыя — усё яшчэ неадлучная бяроза над саламянай страхой?

Не збіраюся пісаць цяпер аб Літаб'яднанні. Варта аднак гэта закрануць у будучым і таксама на Пленуме. Але Пленум павінен з патрабавальнасцю аднесціся да Літаб'яднання і яго ўкладу ў добрую справу.

Другая крыніца аднаўлення рэпертуару — гэта рэпертуар Савецкай Беларусі. Ды прыклады вучаць, што жыўцом перанесеныя на наш грунт беларускія п'есы не прымаюцца. Патрэбная творчая апрацоўка (ёю таксама Літаб'яднанню найлепш заняцца), дастасаванне да нашых умоў. Але паўтараю, не такая апрацоўка, якая калгас заменіць спулдзельняй прадукцыйнай, камсамольца ЗМВ-оўцам. Спробы такой апрацоўкі ў нас былі і таксама нічога не выйшла.

Трэцяе, п'есы на польскай мове. Зараз існуе штучная граніца: як Таварыства — дык беларускія п'есы, а польскія няхай прапагуюць іншыя. Але гурткі ў беларускіх вёсках, калі не маюць п'есы, звяртаюцца не да каго іншага, толькі да Таварыства. А тут ім раяць: «Міхалку», «Боты». І ў выніку гурткі пазбаўлены польскіх п'ес. Вельмі рэдка ставяць іх. А выбар тут немалы. І галоўнае, гэтыя п'есы, як кажуць, «на часе», актуальныя, блізкія нам па сваёй спецыфіцы, парушаюць якраз тыя праблемы, якія аднолькава важныя і для польскай і для беларускай вёскі ў нашай краіне. Паяўляецца ў нас часта, дэманстрацыйна, вузкае разуменне нацыянальнай гордасці, нацыянальнага пытання.

Маем права развівацца на нацыянальнай глебе, але для таго, каб супольныя сілы краіны былі мацнейшыя, каб выкарыстоўваючы нацыянальную спадчыну, маглі мы ўносіць багацейшы ўклад у агульнанародную скарбніцу, а не для таго, каб выдзяляцца, адасабняцца, цесна замыкацца ў рамках нацыянальна беларускіх. Такое становішча сыходзіць на пазіцыю нацыяналізму, а гэтага быць не павінна.

Знаёмасць польскай мовы і культуры нашым вёскам вельмі патрэбная. Тэатральныя гурткі могуць папаўняць гэтыя недахопы.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**



## Пані Марыя

Марыя Ангельчык ужо два гады працуе кіраўніком Павятовага дома культуры ў Бельску. Па прафесіі яна настаўніца. Але культурна - асветную працу пакахала з маленства. Марыя Ангельчык добра ведае спецыфіку працы бельскага асяроддзя, таму не мала часу прысвячае на сувязь і кваліфікаваную дапамогу паасобным святліцам у беларускіх вёсках. Паню Марыю, як яе тут называюць, часта можна сустрэць у Райках, Пілiках і другіх вёсках, дзе існуюць святліцы. Варта падкрэсліць, што ў Бельскім ПДК не лёгкія ўмовы працы. Дом Культуры вельмі цесны. Тут толькі адна зала і сцэна. Будынак стары, вільготны. Жыллёвыя ўмовы кіраўніка яшчэ горшыя. Жыве яна ў малым пакойчыку, сцены якога з'ядае грыб. (Ці ж сапраўды мясцовыя ўлады не могуць на працягу двух гадоў падшукаць адпаведнай кватэры кіраўніку?!) Не гледзячы на дрэнныя ўмовы, ПДК у Бельску не пустуе. Тут адбываюцца цікавыя конкурсы, выстаўкі ці іншыя культурныя мерапрыемствы. Адна з любімых разрывак у ПДК гэта танцвечарынкі пад магнетафонную музыку.

Марыя Ангельчык пастаянна паглыбляе свае веды. Зараз яна студэнтка завочнага культурна - асветнага студыума.

На здымку: Марыя Ангельчык пры магнетафоне.

(вб)

**(Працяг са стар. 3)**

была алюмінёвая панель перадатчыка з асветленай шкалой настройкі. Рыбін адхіліўся назад і са ўсёй моцы ўдарыў у яе галавой. Глухі стук, звон шкла, і ён з праломанай скроняй паваліўся на падлогу кабіны.

Торп, акамянеўшы, глядзеў на знішчаную панель перадатчыка. Але вось ён зразумеў непапраўнасць здарыўшагася, у шаленстве вылаяўся, адкінуў мікрафон і выстраліў у скручанае на падлозе машыны цела.

Усюдыход рэзка павялічыў хуткасць. Спераду замаячыў задні борт апошняга грузавіка. Торп узяў улева і пагнаў машыну ў абход калоны.

Перцаў і Коржаў з узрастаючай трывогай назіралі за ўсюдыходам. Торп імчаўся да Упіца. А ў машыне быў Керымаў.

У Перцава мільганула думка — кінуць ва ўсюдыход гранату. Але ён успомніў: там сядзіць Рыбін. Нельга і загарадзіць шашу, падаўшы машыну ўлева: у кабінах грузавікоў побач з шафёрамі — эсэсаўцы: падымецца перапалох, будуць ахвяры, ды і наогул гэта можа сарваць аперацыю. Заставалася адно — палажыцца на вопыт і майстэрства Рыбіна і падрыхтавацца дзейнічаць.

**(Працяг за тыдзень)**

280

# У ПАЎ

Ад шашы ў Паўлы вядзе звычайная вясковая пясчаная дарога. Ідучы па гэтай дарозе, многім жыхарам Паўлаў давODзіцца шмат перадумаць, шмат успомніць. Гэтай дарогай гналі немцы на смерць людзей у вёску Трычоўку. Між імі былі нялетнія сыны (аднаму 13 год, а другому 16) Міколы Давідзюка. Яны разам з іншымі 20-ццю асобамі з Паўлаў былі жыўцом спалены ў гумне.

Многа бачыла гэтая пыльная паўлаўская дарога. Многа слёз на ёй праліта, калі бацькі, сыны, жоны, сваякі, пазбіраўшы косці памардаваных у Трычоўцы, вязлі на пахаванне на свае могілкі.

Адразу пасля вайны ў Паўлах амаль кожнай раніцай можна было пачуць устрывожаны голас. Знаёмы ён быў усім. Гэта, ходзячы па полі, клікаў сваіх сыноў Мікола Давідзюк, які з роспачы псіхічна захварэў.

Па гэтай паўлаўскай дарозе хадзілі партызаны. Праходзіў ёю і батальён Краёвай Арміі. У Паўлаўскім ляску акружылі яго немцы і знішчылі. Зараз там знаходзіцца помнік, з таблічы якога можна даведацца аб тых падзеях, якія адбыліся 20 год назад.

Гэта ўжо гісторыя. Мінулых цяжкіх дзён нямецкай акупацыі не памятае малодшае пакаленне.

### ДРУЖНАЯ СЯМ'Я

У паўлаўскай сямікласнай школе дружны настаўніцкі калектыў. Яго ўзначальвае Аляксей Максімюк, які працуе тут ад 1939 года. Ён у Паўлах нарадзіўся і выхаваўся. Нідзе, а менавіта ў сваёй вёсцы ён пажадаў вучыць і выхоўваць падрастаючае пакаленне.

— Я вучыў бацькоў гэтых дзяцей, — з задавальненнем сцвярджае Аляксей Максімюк. — А настаўнік Сяргей Філіпюк — гэта таксама мой выхаванак. Ён вярнуўся працаваць у родную вёску.

Адносна настаўнікаў сказаць неабходна і тое, што яны многа ўвагі ўдзяляюць сваім выпускнікам, дапамагаюць ім дастацца ў сярэднія школы, а нават атрымаць інтэрнаты. У гэтым годзе ўсе настаўнікі, а найбольш кіраўнік школы, нямала паклапаталі, каб сірата Марыя Краснадэмбская паступіла ў тэхнікум у Беластоку.

Вялікае зацікаўленне настаўнікі праяўляюць да мастацкага руху. Пад іх кіраўніцтвам арганізаваўся ў вёсцы драмгурток БГКТ і ССМ, у якім бярэ ўдзел не толькі моладзь, але і жанатыя. Усе самадзейнікі з'яўляюцца членамі аб'яднання народных тэатраў.

### ТРАКТАР ПАМОГ

У Паўлах усё большай папулярнасці набірае сельгасгурток. Трактарам гуртка карыстаюцца многія сяляне. За аранне 1 га зямлі плацяць сяляне толькі 54 зл., а члены гуртка 45 зл. Напрыклад, Іван Петрашук трактарам паараў усе палеткі, прызначаныя на азіміну.



 

## З ГРЫБОЎ

Не кожнаму старому «грыбазбіральніку» ўдаецца такі «ўлоў», як гэтым маладзенькім аматарам грыбоў з Андрыянак (Беластоцкі павет) Л. Пятроўская і Я. Худзік.

Фота: Ю. Рыбінскі



# У Беластоку на Грунвальдскай

(Працяг са стар. 1)

— Праз сам ужо факт, што нашы студэнты — гэта адначасова працаўнікі паасобных заводаў і прадпрыемстваў, мы цесна і непасрэдна звязаны з прадукцыяй. Тэмы для пераходных і дыпломных прац студэнты часта знаходзяць на месцы свайё прафесіянальнай работы. Супрацоўніцтва нашай школы з прадукцыяй, хачу гэта асабліва адзначыць, залежыць у першую чаргу ад зацікаўленасці розных заводаў і прадпрыемстваў нашай навучальнай установай. Зацікаўленне гэтае вельмі вялікае. На працягу мінулага навучальнага года супрацоўнічалі з намі 83 розныя, перш за ўсё прамысловыя, установы. Па іх заказе нашыя навуковыя работнікі апрацавалі 236 праблем тэхнічнага характару, якіх прадпрыемствы не мелі магчымасці вырашыць самастойна.

**— Якога роду былі гэтыя тэхнічныя праблемы?**

— Для прыкладу магу вам падаць, што нашыя навуковыя работнікі праводзілі доследы над прычынамі небяспечных трэшчын, узнікшых у сценах будынкаў фабрыкі кармоў у Старасельцах пад Беластокам і адной са школ у Элку. На просьбу Аддзела здароўя ВРН у Беластоку нашыя навуковыя работнікі правялі доследы ва ўсіх рэнтгенаўскіх пунктах над узроўнем небяспечнага праменявання. На заводзе прыладаў і ўхвытаў у Беластоку даследвалі мы ўплыў прадукцыйнага шуму на выдайнасць працы.

**— Якія перспектывы грамадскага авансу стварае ваша школа сваім выпускнікам?**

— Няма такога буйнейшага завода ці прадпрыемства ў Беластоку, у якім на кіраўнічых пасадах не працавалі б нашы выпускнікі. Зрэшты, самае званне інжынера — гэта ўжо грамадскі аванс.

**— У якой ступені ВСІ заспакойвае патрэбы Беласточчыны адносна высокакваліфікаваных тэхнічных кадраў?**

— Патрэбы Беласточчыны значна перавышаюць нашы магчымасці. Зараз штогод ад нас выходзіць каля 30 інжынераў. Каб заспакоіць хаця 50% патрэб, вынікаючых з перспектыўнага плана Беласточчыны, прышлося б нам у бліжэйшыя гады выпускаць штогод па 350—400 інжынераў. А гэта ні ў якім выпадку немагчыма.

**— Які ж вы бачыце выхад?**

— Наспела ўжо патрэба адкрыць у Беластоку дзённую вышэйшую тэхнічную школу. Спадзяваюся, што незадоўга будзем мець прыемнасць сустрэцца на ўрачыстым яе адкрыцці. Апрача таго, неабходна ўжо зараз пашырыць магчымасці навукі для працуючых, аб чым мы ўжо гаварылі.

Гутарыў: **В. РУДЧЫК**



Бульба — хоць на выстаўку пасылай! Нягледзячы на сёлетнюю засуху, наша праслаўленая ў песнях нацыянальная страва не падвяла і гэтым разам. Так, здаецца, гавораць твары гэтых маладых дзяўчат з сям'і Тамчукоў з Новаберазова ў Гайнаўскім павеце, якіх наш фотакарэспандэнт увекавечыў на бацькоўскім полі.

Фота: **Ю. Рыбінскі**

**НАВІНЫ САВЕЦКАЙ НАВУКІ**

# Электрычны стымулятар ураджаю

Любы арганізм жыве і развіваецца дзякуючы электрахімічным працэсам, якія адбываюцца ў ім. Гэта сістэма адрэгулявана прыродай, знешнім асяроддзем на пэўны «самакіруемы» рэжым работы. А ці нельга актыўна ўмяшацца ў дзеянне жывых сістэм? Ці нельга штучна ўзмацняць, паскараць важнейшыя функцыі арганізмаў, выкарыстоўваючы для гэтага, напрыклад, электрычнасць?

Цяпер высветлена, што непасрэднае ўздзеянне электрычнасці дае зусім нечаканыя вынікі, якія не ўдавалася атрымаць пры іншых метадах уздзеяння на біялагічныя аб'екты.

Цікавыя даныя па гэтаму пытанню паведамілі карэспандэнту АПН ва Усесаюзным навукова - даследчым інстытуце электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Тут ужо некалькі год дзейнічае лабараторыя, якая распрацоўвае метады прымянення электрычнай энергіі і іянізуючых выпраменьванняў у сельскай гаспадарцы. Лабараторыю гэту арганізаваў сапраўдны член Акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна Міхаіл Яўрэінаў.

Даследаванні супрацоўнікаў лабараторыі накіраваны на тое, каб выявіць эфектыўнасць уздзеяння пераменнага току высокага напружання на павышэнне пасяўных якасцей насення самых розных культур. Вывучэнне гэтага пытання лабараторыя вядзе комплексна, у супрацоўніцтве з біялагічнымі інстытутамі, размешчанымі ў розных зонах Еўрапейскай часткі СССР.

У Навукова - даследчым інстытуце сельскай гаспадаркі цэнтральных раёнаў нечарназёмнай паласы насенне немчынаўскай кукурузы, апрацаванае электрычным токам на працягу 30 секунд, дало добры ўраджай. Вага зялёнай масы і агульная колькасць пачаткаў былі на 27 працэнтаў больш, чым на кантрольным участку. На 35 працэнтаў узрасла і колькасць спелых пачаткаў, на 40 — вага сухога зерня. Вынікі абнадзейваючыя, але атрыманы яны пакуль на невялікім доследным участку. Доследы праводзіліся і на вялікіх участках. Так, апрацаванае токам насенне кукурузы ў калгасе імя Леніна Кораneўскага раёна Краснадарскага краю на плошчы ў 200 гектараў дало на 18,5 працэнта больш спелых пачаткаў, чым на кантрольным участку.

Апрацоўка насення токам істотна паляпшае яго якасць. Павышаецца палявая ўсходжасць насення, больш дружнымі бываюць усходы, адзначаецца лепшае развіццё лісця ў кармавых культур, павялічваецца колькасць і вага насення ў стручку або коласе. Устаноўлена таксама, што ўздзеянне электрычнага поля на насенне на працягу 10—20 секунд павышае энергію прарастання на 15—30 працэнтаў, а ўсходжасць — на 8—15 працэнтаў. Але рэжым апрацоўкі насення можа быць розным, таму розныя і вынікі. Так, на доследнай дзялянцы насенне чырвоназёрнай пшаніцы з нізкай ўсходжасцю дало павелічэнне ўраджайнасці на 28,5 працэнта.

У сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева праводзіліся доследы апрацоўкі электрычным токам насення памідораў. І гэта дало амаль чатырохразовае павелічэнне ўраджаю ў параўнанні з кантрольным участкам. Адзначым яшчэ адну перавагу: станоўчы эфект электраапрацоўкі захоўваецца доўгі час: у насенні гароху — на працягу аднаго года, у насенні памідораў — да пяці месяцаў. А гэта значыць, што насенны матэрыял можна апрацоўваць адразу ж пасля ўборкі, з восені.

Трэба ўпамянуць і аб электрычных зернеачышчальных машынах, доследныя ўзоры якіх створаны ў Чэлябінскім інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. З дапамогай электратоку насенне абяспыльваецца, ад яго аддзяляюцца прымесі, напрыклад, аўсюк. Машыны могуць раздзяляць зерне па вазе, вільготнасці, размерах. Але, акрамя гэтага, выяўлена і яшчэ адна абставіна. Насенны матэрыял у працэсе ачысткі падвяргаецца ўздзеянню электрычнага поля. І гэта павышае ўраджай збожжавых на 10 працэнтаў, а ў асобных выпадках (што залежыць ад рэжыму апрацоўкі насення) — да 25 працэнтаў.

Падлікі паказваюць, што перадпасяўная апрацоўка насення на такіх машынах дасць толькі па Чэлябінскай вобласці прыбаўку да ўраджаю ў 280—300 тысяч тон.

Такія першыя вынікі доследаў. І, магчыма, у бліжэйшыя гады электрычная энергія дапаможа вырошчваць высокія ўраджаі не на маленькіх дзялянках або доследных палях, а на тысячах і мільёнах гектараў.

**Дзмітрый Сасораў**

Да гэтага часу трымаў ён 2 коней. Калі стаў карыстацца трактарам, прадаў аднаго каня.

### ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР

Добра гаспадарыць трэба ўмець. Мікалай Аляксеюк гэтага ўмення на-

# ЛАХ

браўся з кніжак. Пачаткова ён пастанавіў заняцца птушкагадоўляй. Пабудаваў відны і цёплы куратнік, нагадаваў куранят, збіў 16 седалаў. І справа пайшла добра. Кожны месяц ён прадаваў яек на 1200—1300 зл.

— Важна рацыянальнае кармленне курэй. Нельга даваць ім збожжа, бо не аплаціцца, — заяўляе Мікалай Аляксеюк. Спецыяльныя мяшанкі для курэй, якія прадаюцца ў ГС-ах, — вось гэта асноўны і вельмі карысны корм.

Два гады таму назад ён рашыў заняцца вырошчваннем трускалак. За 4 тысячы злотых ён закупіў парасткаў. Некаторыя жыхары вёскі высмейваліся з яго. Пакуль што там нарасце, гаварылі, а ўжо 4 тысячы зл. няма. А як не ўродзяць? Што тады? Але плантатар трускалак не падаў на духу. Трускалкі добра раслі і добра ўрадзілі. У гэтым годзе прадаў ён дзяржаве каля 2 тон трускалак і ўзяў 25 тысяч злотых. Аплацілася яму вельмі добра. Цяпер у яго аднавяскоўцы купляюць парасткі. Прадаў ён іх ужо на 3 тысячы зл.

У апрацоўцы зямлі Мікола Аляксеюк таксама належыць да перадавых гаспадароў. Ён кожную восень падрыхтоўвае некалькі сіласных ям. Калі пажне жыта, дык хутчэй намагаецца паараць поле і засеяць яго паплёнамі. Добра расце на яго полі кармавы сланечнік з вікаю. Зялёных кармоў у Міколы Аляксеюка на доўга хапае для быдла.

### ВЫРАДАК

Куды лепей, весялей, прыемней жылося б, каб не было зайздрасці, несумленнасці, нялюдскасці, подласці. Гэтыя адмоўныя бакі мяшаюць жыць у згодзе суседзям, перашкаджаюць у многіх сем'ях. Вось, напрыклад, сям'я Галубоўскіх. Зараз жыве там сын Іван з маткаю. Калі з маткаю гаворым аб адносінах да яе старэйшага сына, дык яна аж слязьмі заліваецца ад гора. Яе моцна пакрыўдзіў родны сын, які жыве зараз у Заблудаве. Крыўда гэта заключаецца ў тым, што гэты сын знішчыў гаспадрку, прадаў жывёлу і стадолу, хацеў прадаць хату, а за пратэсты і супрацьдзеянне маткі ён неадноўчы на яе падымаў руку. І ўсё гэта робіць імкненне да нажывы, не звяжаючы на тое, якімі метадамі прыватніцкае імкненне ажыццяўляецца.

Большасць сем'яў у вёсцы жыве згодна. У Паўлах асабліва падкрэсліваюць сям'ю Васіля Філініка. Там і на нявестку не наракаюць, там і бабулі надрэнна жывецца, там паміж усімі добрыя адносіны.

*

З Паўлаў да Беластока вяртаўся я ўспомненай вышэй пясчанай дарогай. За апошнія гады змянілася на ёй транспарт. Ужо не ездзяць жалезныя вазы, а толькі балоны і трактары. Многа па гэтай дарозе праязджае матацыклістаў. І апрача старых бабулек, якія ходзяць маліцца ў рыбалаўскую царкву, ніхто ў руках ужо не носіць абутку. Усё змянілася і змяняецца далей.

М.Х.





Гэты чалавек стаўся сімвалам барацьбы курдаў. Мулла Мустафа Барзані (першы злева) карыстаецца адданасцю і любоўю сваіх горных салдат.

## Лячэнне парай

Прымяненне лячэбных гразей, гаючай вады — агульнавядома. А вось лячэнне прыроднай парай, бадай будзе словам новым у курорталогіі...

У стапяцідзесяці кіламетрах на ўсход ад Уфы, на правым беразе ракі Юрузані, ёсць вельмі цікавае месца: на плоскай вяршыні гары Янчатаў з зямлі няспынна выдзяляецца гарачае паветра і пара, а ў глыбіні гары тэмпература дасягае 300—400 градусаў.

Амаль 200 год вучоныя спрабавалі разгадаць прычыну гэтых з'яў. Нядаўна таямніца раскрыта. Аказалася, што сярод парод, з якіх складаецца гара, шмат мергеляў, апошнія ўтрымліваюць арганічныя рэчывы — бітумы. Гэтыя рэчывы пры злучэнні з кіслародам акісляюцца, самазагараюцца і ствараюць пастаянную высокую тэмпературу ў трэшчынах гары. Пара, якая ўзнімаецца на паверхню, аказалася гаючай пры рэўматычных захворваннях. Таму ля падножжа гары пабудаваны санаторый.

ВЕСТКІ з БССР



## Бібліятэкі, клубы, тэатры, кіно

Разам з ростам сацыялістычнай эканомікі і матэрыяльнага дабрабыту народа, няўхільна ўзрастаюць і духоўныя патрэбы савецкіх людзей. Менавіта таму ў Беларускай ССР, як і ў цэлым Савецкім Саюзе, з году ў год пашыраецца сетка культурных устаноў. Цяпер у рэспубліцы працуе 5235 клубаў, 7337 бібліятэк з кніжным фондам 54 мільёна кніг, 11 тэатраў. Апрача дзяржаўных прафесіянальных тэатраў, у Беларусі налічваецца звыш 21 тысячы самадзейных мастацкіх калектываў, у якіх удзельнічае звыш 300 тысяч рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі.

Для карыстання працоўных у рэспубліцы створана шырокая сетка кінаўстановак. Цяпер у Беларусі працуе 384 гарадскіх і 3954 вясковых кінаўстаноўкі. Кінафільмы дэманструюцца звыш чым у 30.000 населеных пунктах.

На здымку: чытальная зала бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Мінску.

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# 4.000 ГОД БАРАЦЬБЫ за незалежнасць

Гісторыя барацьбы курдыйскага народа за незалежнасць вельмі доўгая. Яна налічвае каля 4000 год. Змянялiся захопнікі. Пачаткова асірыйцы, пасля персы, манголы, рымляне, арабы, туркі... Але прыгнет амаль сямімільённага курдыйскага народа застаўся такі ж самы. Курдыстан — горная краіна, зараз перарэзаная дзяржаўнымі граніцамі Ірака, Турцыі і Ірана. 5.000 год да нашай эры тут квітнела легендарная Ніневія. Зараз, нягледзячы на велізарныя прыродныя багацці і перш за ўсё нафту — бурае золата Курдыстана, краіна гэтая вельмі бедная і гаспадарча адсталая. У правінцыях Эрбіль і Сулейманія, якія налічваюць 600.000 чал. насельніцтва, ёсць толькі 40 лекараў. Зубнога лекара няма ніводнага. Школ і наогул асветы тут амаль зусім няма. Урад Ірака свядома не дапускае да развіцця асветы сярод курдаў.

Пасля ІІ-ой сусветнай вайны курды прычыніліся да звяржэння рэакцыйнага, поўнасцю падпарадкаванага англа-амерыканскім імперыялістам Нуры Саіда і дапамаглі здабыць уладу генералу Касэму. Калі Касэм выступіў супраць сваіх саюзнікаў і яго бамбардыроўшчыкі пачалі граміць безбаронныя курдыйскія вёскі, горныя коннікі ў турбанах і шараварах падтрымалі пераварот Арэфа, сучаснага правадыра іракскага рэжыма. Некалькі месяцаў у Багдадзе ішлі перагаворы паміж курдамі і ўрадам Арэфа. Прадстаўнік курдаў палкоўнік Яляль Талабані патрабаваў:

1. Утварэнне аўтаномнага Курдыстана ў рамках Іранскай рэспублікі, які б абымаў правінцыі Сулейманія, Эрбіль і Кіркук.
2. Асобны бюджэт, які будзе прызнаваць курдам частку даходаў з нафты, эксплуатаванай на іх тэрыторыі.
3. Вызначыць прадстаўніка курдыйскай нацыянальнасці на пасаду намесніка прэм'ер-міністра Іракскага ўрада.
4. Чацвёртая частка месц у Іракскім парламенце для курдаў і адпаведнае прадстаўніцельства ва ўрадзе.
5. Курды, якія адбываюць вайсковую службу, заставаліся б у межах сваёй аўтаномнай акругі.

Арэф адкінуў амаль усе патрабаванні Талабані. Перагаворы былі перарваны. У гарах Курдыстана разгарэлася зноў вайна. За галаву правадыра курдыйскіх паўстанцаў Мулла Мустафы Барзані вызначана ўзнагарода 100 тысяч фунтаў.

Гераічная барацьба курдаў за сваю незалежнасць была тым больш цяжкая, што паміж курдыйскімі плямёнамі не было згоды. Аднак цяпер, пры масавых забойствах, гвалтах і здзеках іракскай арміі над насельніцтвам курдаў, увесь курдыйскі народ пад кіраўніцтвам таленавітага правадыра Барзані падняўся на барацьбу з прыгнятальнікамі.

Барацьбу за незалежнасць курдаў Барзані пачаў у 1931 годзе. Пераможаны ў адкрытым баі, ён схаваўся ў горадзе Сулейманія, які лічыцца неафіцыйнай сталіцай курдаў. Адтуль з падполля кіраваў паўстаннем. У 1946 годзе, калі ў горадзе Магабад было аб'яўлена аб утварэнні рэспублікі Курдыстана, Барзані і 496 яго верных байцоў прабраліся туды, каб бараніць ядро новай дзяржавы. Аднак існаванне рэспублікі закончылася пасля некалькіх месяцаў. Партызаны Барзані, праследваныя брытанскай, іракскай і іранскай арміямі, пасля 53 дзён няроўнай барацьбы перайшлі граніцу СССР, дзе атрымалі прыстанішча. Барзані ў Савецкім Саюзе закончыў юрыдычны факультэт і добра авалодаў рускую мову. Зараз ён ведае 4 замежныя мовы. Пасля звяржэння тыранскага ўрада Нуры Саіда, Барзані вярнуўся ў іракскі Курдыстан, каб узначаліць барацьбу супроць дыктатуры генерала Касэма.

Палкоўнік Арэф, якому курды дапамаглі ўзяць уладу ў свае рукі пасля Касэма, не толькі не змяніў яго палітыкі адносна курдаў, але яшчэ больш завастрыў контррэвалюцыйны напрамак іракскага ўрада. Мулла Мустафа Барзані змагаецца далей...

Нядаўна заходні друк паведаміў, што кіраўніцтва курдыйскай арміі ў Іраку пракламавала ўтварэнне незалежнага Курдыстана. Мулла Мустафа Барзані выбраны прэзідэнтам гэтай дзяржавы.

Па прапанове Мангольскай народнай рэспублікі справа курдаў будзе разглядацца на бягучай XVIII асамблеі ААН.

апр (вб)




...што збожжа, якое штогод знішчаецца ва ўсім свеце насякомымі-шкоднікамі, хапіла б для харчавання 200 мільёнаў чалавек.

## ЧЭМПІЁН на спіне бегемота

Былы чэмпіён свету ўсіх ваг у боксе швед Іогансан на спіне магутнага бегемота, які важыць 1800 кг.

Кажуць, што чэмпіён мае цяжкасці з грашыма, таму як ён толькі не рэкламуецца, каб магчы вярнуцца на рынг. (вл)





У нас так не ездзяць, як гэтыя маладыя в'етнамкі. Для іх няма тут нічога рызыкоўнага... (ся)

## УРОЦЛАЎСКІЯ САМАХОДЫ

Велізарная фабрыка ва Уроцлаве, якая дваццаць год таму назад прадукавала танкі і іншыя ваенныя абсталяванні, зараз прадукуе аўтобусы і грузавікі. На пачатку чэрвеня з Ельчанскага самахадовага прадпрыемства выехаў 1000 «Жубр». У 1960 годзе з гэтага прадпрыемства выслан першая партыя васьмітонных грузавікоў.

# Трыбуна чытачоў

## Каб пастановы не засталіся на паперы

(Працяг са стар. 3)

і прапаганду. Прапаганда — вельмі важны адрэзак працы. Асабліва цяпер, калі XIII Пленум ЦК ПАРП забавязвае ўсе арганізацыі ўзняць на вышэйшы ўзровень прапаганду і насыціць яе яшчэ больш палітычна-выхаваўчымі элементамі.

Гэта ж самае адносіцца і да радыёгутарак, якія надаюцца праз радыёвузлы. Успомненая дзялянка дзейнасці будзе рэалізавацца пад кіраўніцтвам Міколы Самоціка.

Да нядаўна адным са слабейшых пунктаў працы таварыства было абслугоўванне турткоў БГКТ працаўнікамі і актывістамі аддзела. Дрэнна было таксама з аплачваннем членскіх складчын. Гэтымі справамі цікавіцца зараз Кастусь Майсеня.

Гайнаўскі аддзел БГКТ мае вельмі добрае памяшканне. Знаходзіцца яно ў «Доме настаўніка». Не было яно належна выкарыстана. На апошнім пасяджэнні было вырашана, што кожны чацвер будуць арганізаваны вечары культурнага адпачынку. На гэта зложацца мастацкія выступленні, даклады, спатканні і г.д. За клубную працу аддзела адказная Анастасія Тропак — дырэктар беларускага ліцэя. Яна запэўніла членаў праўлення, што чатыры чарговыя вечары будуць запоўнены мастацкай самадзейнасцю навучэнцаў ліцэя.

Даволі важнай справай з'яўляецца супрацоўніцтва аддзела з паасобнымі ўстановамі і прадпрыемствамі. А ў Гайнаўцы ёсць нават вялікія прадпрыемствы. Даручана гэта тав. Суліме і Дацэвічу.

Мастацкім рухам у павеце апякуюцца настаўнікі Аляксандр Харкевіч і Аляксандр Швед.

Згодна з пастановамі з'езда, у будучыні ў Гайнаўцы павінен быць пабудаваны музей. Экспанаты да музея ўжо цяпер можна і трэба збіраць. Гэтай дзялянкай працы будуць займацца Васіль Дзун і Рыгор Зданоўскі.

На розных імпрэзах і спатканнях патрэбныя будуць адпаведныя дэкарацыі. Гэтым зоймецца вядомы гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

На пасяджэнні аддзела кожны сам дабравольна выбіраў сабе галіну дзейнасці. Калі так дасканала падзеленыя абавязкі сярод членаў аддзела не застануцца толькі на паперы (а да гэтага дапусціць нельга, ды і сорамна) Гайнаўскі аддзел будзе добрым памочнікам нашай партыі ў ажыццяўленні пастаноў XIII Пленума ЦК ПАРП.

**М. Хмялеўскі**

## Аляксандр Завадскі аб Веры Харужай

(Працяг са стар. 2)

аж да нападу гітлераўцаў на Савецкі Саюз.

Не памятаю ўжо, калі і як мы атрымалі яе ліст ад красавіка 1942 года, які быў пісаны перад адыходам у тыл ворага. Арыгінал лісту я аддаў для Партызанскага Музея ў Мінску. Копію мы пакінулі сабе, калі ласка. З лісту відаць, што павінна была яна яшчэ перажыць, пакуль не загінула геройскай смерцю ад рук гітлераўскіх людабойцаў.

Вось і ўсё, дарагія таварышы. Мне зрабілася вельмі цяжка ад гэтых успамінаў. Мы ж маем так мала часу для тых спраў. Але дадам яшчэ: шануйце, ЗМС-аўцы і ЗМВ-оўцы, памяць аб Веры Харужай. Варта яна таго: была членам ЦК Саюза Камуністычнай Моладзі ў Польшчы — вашага ідэйнага баявога папярэдніка. Кожнай кропляй сваёй крыві была камуністкай і цудоўнай дзяўчынай — нязменным таварышам у барацьбе.

Апошні ліст Веры носіць дату 9 красавіка 1942 года. Вера піша з Масквы: **«...Сяргея ўжо няма на свеце. У бai пад Пінскам 4 ліпеня ён быў ранены і таварышы не змаглі яго вынесці, забраць з сабой. Застаўся адзін. Бяздзейны, аблітьі крывёй перад тварам жорсткага ворага. Ведаеце Яго, дык лёгка можаце сабе ўявіць, што ён тады перажываў, адчуваў. Дрыжыкі бяруць, сэрца камянее, калі я аб гэтым думаю. Што было потым — нічога не ведаю, ці тыя забойцы яго забілі ці памёр ад ран (меў дзве раны), ці... адкуль я магу ведаць? Тысячы розных думак, страшных, немагчымых, часам хочацца спадзявацца, што неяк, нейкім цудам выратаваўся. Меў жа ён жалезнае здароўе, невычэрпныя сілы і жыццёвую энергію. Можа, можа жыве. Але надзея вельмі слабая, хоць я, скажаце, вялікая аптымістка. Так сталася, дарагія.**

**Цяпер другая навіна — маю маленькага сынка. Твае прадказванні, Сарнік, спраўдзіліся — сын. Калі нарадзіўся, вырашылі, што будзе звацца Сяргеем. Цяпер ужо мае шэсць месяцаў, знаходзіцца ў Молатаўскай вобласці ў калгасе разам з Аняй і бабкай. Пакінула яго, калі меў 4 месяцы. Была выклікана ў Маскву і павінна была выехаць, хоць сэрца маё ірвалася на часткі..**

**Вера».**

Павінна была выехаць, бо абавязак клікаў яе на поле партызанскай бітвы. Геройская смерць увянчала прыгожае і цяжкое жыццё Рэвалюцыянеркі.

З.

## У ПАЧАТКОВЫЯ ШКОЛЫ З ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫЯЙ

У Бельскім павеце 430 настаўнікаў. З іх настаўніцкую студыю (паўвышэйшая адукацыя) мае 93, а вучыцца на СН-ах — 82.

Яшчэ пару год таму не спатыкалася ў пачатковых школах настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй. Сітуацыя змяняецца і з задаваленнем адмячаем, што 13 настаўнікаў пачатковых школ Бельскага павета цяпер вучыцца (завочна) ў вышэйшых школах краіны: Уладзімір Корх з Войшкаў — на педагогіцы, Яніна Зубко з Райска — на рускай філалогіі, Баляслаў Ступакоўскі з Нурца — у АВФ (Акадэмія фізічнага выхавання), Крыстына Зізіка з Плюціч — на матэматыцы, Генрык Гаўзэ з Левак — на польскай філалогіі.

5 настаўнікаў пачатковых школ у Бельскім павеце ўжо здабылі вышэйшую адукацыю: Аляксей Карпюк — магістр беларускай філалогіі — працуе ў Орлі, Рамуальда Лукашэвіч — магістр гісторыі — у Боцьках, Тадэуш Малыска — мгр гісторыі — у Нямыях, Яўгенія Луба — біёлаг — у пачатковай школе ў Бельску, Збігнеў Паплаўскі — мгр польскай філалогіі — у Кальніцы.

(вл)

## Першая — у Крывой

У маі гэтага года пачалася доўгачаканая вялікая будова ў вёсцы Крывая. Школа. 8-мікласная з 6 лекцыйнымі пакоямі, 2 працоўнямі для практычных заняткаў, фізкультурнай залай. Будзе мець 2 крыла і будзе першай такой вялікай і такой сучаснай вясковай школай не толькі на Беласточчыне, але бадай ва ўсёй краіне. Кошт — звыш 2 мільёнаў злотых. Плануецца заканчэнне будовы да 1 верасня 1964 г. Школа будуецца з дзяржаўнага фонду. (вл)



## КІНО

Праграма

на 14—20.X.1963 г

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Sztubak" (czeski), 15—17. „Rudy" (radz.), 18—20.

**Кляшчэлі**
„Globke — biurokrata śmierci" (NRD), 15—17. „Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.), 18—20.

**Накасады**
„Dom na rozstajach" (radz.), 18—20.

**Нараў**
„Czekajcie na listy" (radz.), 16—20.

**Нараўка**
„Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 16—20.

**Чаромуха**
„Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.), 15—17. „Przepustka na bal" (radz.), 18—20.

**Чыжы**
„Artysta do wszystkiego" (radziecki), 16—20.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Porucznik Marynin" (radz.), 16—20.

**Бранск**
„Karabiny i gołębie" (węg.), 15—17. „Nasz wspólny przyjaciel" (radz.), 18—20.

**Гродзіск**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 16—20.

**Орля**
„Gdy drzewa były duże" (radz.), 16—20.

**Райск**
„Szybsza od wiatru" (radz.), 16—20.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Trzynastego nocą" (bułg.), 15—17. „Zwykła historia" (radz.), 18—20.

**Міхалова**
„Mecz w piekle" (węgierski), 15—17. „Przepustka na bal" (radziecki), 18—20.

**Супрасль**
„Biedna ulica" (bułg.), 15—17. „Po latach" (radz.), 18—20.

**Чорна Беластоцкая**
„Miasto na falach" (radziecki), 17—18. „Człowiek idzie ze słońcem" (radz.), 19—20.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„SOS na Pacyfiku" (angl.), 15—17. „Zakochała się dziewczyna" (radz.), 18—20.

**Мілейчыцы**
„Noc szpiegów" (franc.), 15—17. „Trudne godziny" (włoski), 18—20.

**Нурэц**
„Poślubny rejs" (angl.), 15—17. „Zwycięstwo nad Wołgą" (radz.), 18—20.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Młyn szczęścia" (rumuński), 15—17. „Dwie sroki za ogon" (radz.), 18—20.

**Сухаволя**
„Ocean Lodowaty wzywa" (czeski), 15—17. „Dom na rozstajach" (radz.), 18—20.

**Шудзялава**
„Ten, który wrócił" (radz.), 16—20.

**Сідра**
„Zamek z bajki" (NRD), 15—17. „Niewidomy muzyk" (radz.), 18—20.

**Янаў**
„Gdzie rzeki błyszczą w słońcu" (czeski), 15—17. „Poławiacze gąbek" (radz.), 18—20.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Nikt nie zna prawdy" (radz.), 19—20.

**Новы Двор**
„Bariera ognia" (radz.), 19—20.

ПРАЎНІК РАІЦЬ

## СПАДЧЫННЫЯ СПЛАТЫ

Усе наследнікі, якія не атрымалі гаспадаркі, або яе часткі, маюць права да сплат.

Сплата поўнасцю прыслугоўвае толькі тым наследнікам, якія перад смерцю гаспадара прынамсі год працавалі на гаспадарцы або ў часе яго смерці былі няздольнымі да працы (інваліды I і II катэг.).

Пры ўстанаўленні сплат наследнікам, якія маюць свае гаспадаркі або працуюць на гаспадарцы жонкі (мужа) бярэцца пад увагу іх маёмасная сітуацыя, размеры і стан спадчыннай гаспадаркі, а таксама ўсё тое, што ён атрымаў ад гаспадара ў пасагу, у даравізну або на навуку, калі вучыўся ў школе. Адпаведна да гэтага належная сплата можа быць зменшана.

Наследнікі, якія здабываюць прафесію, з'яўляюцца вучнямі сярэдняй школы або студэнтамі вышэйшых школ, атрымоўваюць сплаты ў граніцах свайго ўдзелу. Пры гэтым бярэцца пад увагу век і іх патрэбы, звязаныя з навукай.

Сплаты выплачваюцца ім у месячных ратах, якія не павінны перавышаць — для здабываючых прафесію і вучняў сярэдніх школ 450 зл., а для студэнтаў вышэйшых школ 550 зл. Сплаты не належацца тым, хто дасягнуў 18 год і адначасова з вучобай працуе, і атрымлівае зарплату.

Настаўнікі, якія працавалі на гаспадарцы больш года да смерці гаспадара, калі атрымоўваюць замест гаспадаркі сплаты, маюць права на працягу пяці год жыць на гаспадарцы. Калі гэткім наследнікам з'яўляецца непаўналетні, то пяцігадовы тэрмін лічыцца ад дасягнення паўналецця (18 год). Гэтыя ўпраўненні прыслугоўваюць таксама тым наследнікам, якія ў момант падзелу спадчыны пражывалі на гаспадарцы. Няздольны да працы (інвалід 1 і 2 кат.) мае права без ніякіх агранічэнняў тэрміну жыць на гаспадарцы.

Часта здараецца, што наследнікі без суда і натарыуса дзеляць спадчыну паміж сабой. Калі перад апублікаваннем закону аб агранічэнні падзелу сельскіх гаспадарак наследнікі фактычна карысталіся часткамі гэтай падзеленай гаспадаркі, то яны захоўваюць спадчыннае права.

Калі няма наследніка, які працаваў на гаспадарцы прынамсі год да смерці гаспадара, або такога, які фактычна абрабляе гаспадарку або яе частку, то на працягу 6 месяцаў ад аб'яўлення закону аб агранічэнні падзелу сельскіх гаспадарак іншы з наследнікаў, які зложыць асвядчэнне ў судзе або ў натарыуса аб гатоўнасці вядзення гаспадаркі і мае да гэтага кваліфікацыі, можа атрымаць гаспадарку. У іншым выпадку гаспадарка стаецца ўласнасцю дзяржавы.

Калі спадчына ўжо падзелена, то падзел гэты астаецца важным. Аднак усе тыя, каму прысуджаны сплаты, а яны не маюць права паводле новага закону на спадчыну, трацяць права да невыплачаных ім сплат. З гэтага вынікае, што ўсе тыя, хто пражывае і працуе ў горадзе, не могуць патрабаваць сплат, хоць бы яны былі ім прызнаны судом.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28 80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiebiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5458 BHK A3

